// БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ
№1 (212)
студзень 2020



Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### "Бацькаўшчына" атрымала адказы на Заяву ў абарону суверэнітэту Рэспублікі Беларусь

У снежні 2019 года Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" па рашэнні Рады накіравала на адрас шэрагу дзяржаўных установ краіны Заяву ў абарону дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.

Старонка 2

### ЕГУ надаў ступень Ганаровага доктара Вітаўту Кіпелю

Сенат Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта аднагалосна прыняў рашэнне аб наданні ступені Ганаровага доктара выбітнаму дзеячу беларускай эміграцыі Вітаўту Кіпелю "за самаадданасць справе беларускай асветы і культуры замежжа".

Старонка 3

### Змітрака Бядулю перапахаваюць у Беларусі

Пра гэта расказаў "Радыё Свабода" Аляксандр Сапега, прэзідэнт дабрачыннага фонду Марыі Магдалены Радзівіл і сябра Асацыяцыі беларусаў Швейцарыі, якому даверылі арганізаваць перапахаванне.

Старонка 8

**Гэты выпуск "Беларусаў у свеце" выйшаў дзякуючы спрыянню Валянціны Трыгубовіч**



# АЛЕНА МАКОЎСКАЯ І НІНА ШЫДЛОЎСКАЯ – У СПІСЕ АСОБАЎ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ ПА ВЕРСІІ "РАДЫЁ СВАБОДА"

Усяго ў спіс трапілі 66 асобаў – грамадскіх і палітычных актывістаў, папулярызатараў беларускай мовы і культуры, заўважных дзеячаў айчыннай IT-сферы, якія цягам апошняга дзесяцігоддзя "рабілі Беларусь лепшай". Кіраўніцы "Бацькаўшчыны" былі адзначаныя "Радыё Свабода" за стварэнне кампаніі "Будзьма беларусамі!", што стаяла за многімі – у публікацыі ўжытае слова "россып" – культурніцкімі ініцыятывамі, сярод якіх прыгаданы асобна фестываль беларускамоўнай рэкламы "Аднак!".

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# "БАЦЬКАЎШЧЫНА" АТРЫМАЛА АДКАЗЫ НА ЗАЯВУ Ў АБАРОНУ СУВЕРЭНІТЭТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У снежні 2019 года Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" па рашэнні Рады накіравала на адрас шэрагу дзяржаўных установаў краіны Заяву ў абарону дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. Прычынай, якая змусіла зрабіць гэты крок, сталі перамовы паміж уладамі Беларусі і Расійскай Федэрацыі па паглыбленні інтэграцыі, якія адбываюцца ў атмасферы закрытасці. Ад большасці адрасатаў адказ, на дзіва, прыйшлі даволі хутка.



Акцыя супраць паглыблення інтэграцыі з Расіяй. Мінск, 8 снежня 2020 года

Пастаянная камісія па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь паведаміла, што наша Заява разгледжана і прынята да ведама. *"Развіццё ўзаемавыгаднага беларуска-расійскага супрацоўніцтва – адзін з прыярытэтных напрамкаў міжнароднай дзейнасці Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, і беларускія парламентарыі паслядоўна праводзяць лінію, накіраваную на адстойванне нацыянальных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь"*, – запэўнівае ліст за подпісам Старшыні пастаяннай камісіі па міжнародных справах А.У. Савіных.

У Міністэрстве культуры, як вынікае з атрыманага намі ліста, таксама разгледзелі наш Зварот, і даслалі нам разгорнуты адказ пра тое, якім чынам Міністэрства ажыццяўляе міжнароднае супрацоўніцтва ў сферы культуры паміж Беларуссю і РФ. Адказ падсумоўвае высновa: "Пытанні сферы энергетыкі, доступу да рынкаў, уніфікацыя мытнага і падатковага заканадаўства, якія згадваюцца ў вашым звароце, не ўваходзяць у кампетэнцыю Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь".

Пастаянная камісія па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь праінфармавала, што перанакіравала нашу Заяву на адрас Міністэрства замежных спраў Беларусі, куды мы, зрэшты, таксама яе дасылалі.

У сваю чаргу, адказ Міністэрства замежных спраў за подпісам намесніка міністра Я.А. Шастакова прыйшоў вельмі разгорнуты і давёў, што ўрадавыя рабочыя групы па далейшым паглыбленні эканамічнай інтэграцыі дбаюць перш за ўсё аб забеспячэнні роўных умоў суб'ектам гаспадарання абедзвюх краін. Затым ідзе пералік сведчанняў аб выключна эканамічнай накіраванасці "Праграмы дзеянняў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі па рэалізацыі палажэнняў Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы". Працытуем:

*"Каментары аб выключна эканамічнай накіраванасці Праграмы дзеянняў і "дарожных карт" да яе дадзеныя ў верасні – лістападзе 2019 г. Прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Румасам С.М., прэс-сакратаром Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Эйсмант Н.М., былым Міністрам эканомікі Рэспублікі Беларусь Крутым Д.М. і Міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Макеем У.У.*

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнка неаднаразова падкрэсліваў нязменнасць курсу на ўмацаванне суверэнітэту і незалежнасці нашай дзяржавы. Так, 17 лістапада 2019 г. Кіраўнік дзяржавы падчас размовы з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі на ўчастку па выбарах дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу паведаміў, што не будзе падпісваць ні адзін з дакументаў аб паглыбленні інтэграцыі з Расіяй, калі яны будуць супярэчыць Канстытуцыі нашай краіны.*

*У звароце да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу шостага і сёмага скліканняў Кіраўнік дзяржавы грунтоўна асвятліў актуальныя пытанні беларуска-расійскага супрацоўніцтва і інтэграцыйнага ўзаемадзеяння.*

*7 снежня 2019 г. у г. Сочы падчас перамоў з Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Пуціным У.У. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што адзіная праблема, над якой працуюць у цяперашні час урады, – гэта забеспячэнне роўных умоў для жыцця людзей і працы суб'ектаў гаспадарання.*

*24 снежня 2019 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнка ў інтэрв'ю галоўнаму рэдактару радыёстанцыі "Эхо Москвы" Венедзіктаву А.А. паведаміў, што на вышэйшым узроўні дасягнута дамоўленасць аб тым, што пытанні завяршэння саюзнага будаўніцтва з наднацыянальнымі органамі не будуць абмяркоўвацца ў рамках работы па паглыбленні эканамічнай інтэграцыі".*

Зварот, дасланы намі ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, быў перанакіраваны ў Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь, а ўжо адтуль на наш адрас прыйшоў адказ, у якім, апроч шматлікіх цытат і спасылак на пастановы дзяржаўных органаў аб дзеяннях, накіраваных на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй пачынаючы з 1995 года (у такім самым ключы, як і ў згаданых вышэй лістах), утрымліваецца таксама вытлумачэнне атмасферы таемнасці, у якой праходзіла ўзгадненне "дарожных мапаў":

*"Перапіска па пытанні рэалізацыі Праграмы дзеянняў і фарміравання дарожных карт паміж Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання вядзецца пад абмежавальным грыфам «Для службовага карыстання»"*.

Такая сітуацыя, са словаў Міністэрства, адпавядае Закону № 455-З "Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі" ад 10.11.2008 г., які, сярод іншага, вызначае панятак службовай інфармацыі абмежаванага распаўсюджвання.

Парадак прадстаўлення абмежавальнага грыфа "Для службовага карыстання" вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, у прыватнасці, Палажэннем аб парадку прадстаўлення абмежавальнага грыфа "Для службовага карыстання". Сімвалічна, што тое самае Палажэнне рэгулюе і выкарыстанне грыфа "Камерцыйная тайна". Спадзяемся, што "камерцыйнай тайнай" дзяржаўны суверэнітэт ніякім чынам, ні на якім этапе і ні для каго не зробіцца.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# БЕЛАРУСКАЯ "НІВА" АТРЫМАЛА 112 ТЫС. ЕЎРА ДАТАЦЫІ З БЮДЖЭТУ МУС ПОЛЬШЧЫ

Рэдакцыя не хавае, што гэта немалая сума, аднак, паводле галоўнага рэдактара, згаданых фінансавых сродкаў хапае толькі на мінімальнае забеспячэнне працы тыднёвіка.

475 тыс. злотых (амаль 112 тыс. еўра) – датацыю на 2020 год на такую суму ад Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы атрымаў тыднёвік беларусаў Польшчы "Ніва".

"Ніва" – гэта найбуйнейшае выданне беларускай нацменшасці, гісторыя якога сягае 1956 года. Датацыя з бюджэту Польшчы немалая, але згаданых фінансавых сродкаў хапае толькі на мінімальнае забеспячэнне працы тыднёвіка, сказаў галоўны рэдактар "Нівы" Яўген Вапа.

**Міхась Сцепанюк, polskieradio.pl**

навіны

# ЕГУ НАДАЎ СТУПЕНЬ ГАНАРОВАГА ДОКТАРА ВЫБІТНАМУ ДЗЕЯЧУ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ ВІТАЎТУ КІПЕЛЮ

14 студзеня Сенат Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (ЕГУ) аднагалосна прыняў рашэнне аб наданні ступені Ганаровага доктара выбітнаму дзеячу беларускай эміграцыі Вітаўту Кіпелю "за самаадданасць справе беларускай асветы і культуры замежжа".



Д-р Вітаўт Кіпель – выпускнік беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу, доктар мінералогіі Лёвенскага каталіцкага ўніверсітэта, доўгачасовы выканаўчы дырэктар Даследчага цэнтра навукі і тэхналогіі Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі. У 1975 годзе д-р Кіпель быў узнагароджаны медалём Паняволеных народаў Эйзенхаўэра.

З 1982 году д-р Кіпель займае пасаду старшыні адной з найбольш уплывовых беларускіх навуковых устаноў замежжа – Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.

Дзякуючы непамернай адданасці справе беларускага руху ў эміграцыі, д-р Кіпель быў заступнікам старшыні Саюза беларусаў Бельгіі, стваральнікам і дырэктарам беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі, выкладаў у беларускай школе ў Брукліне, а таксама на працягу 1960–1980-х гадоў стала супрацоўнічаў з беларускай рэдакцыяй "Радыё Свабода".

Д-р Кіпель гэтаксама вядомы як лідар беларускага рэспубліканскага руху ЗША. У 1972–1982 гг. ён займаў пасаду старшыні Федэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клубаў, а ў 1974 годзе быў абраны на старшыню Рэспубліканскай федэрацыі штата Нью-Джэрсі. У 1978–1982 гадах д-р Кіпель быў старшынём Этнічнай рады штата Нью-Джэрсі.

Сярод найбольш грунтоўных акадэмічных унёскаў д-ра Кіпеля з'яўляецца праца "Беларусы ў ЗША", выдадзеная па-беларуску ў 1993 годзе і па-англійску ў 1999 годзе. Дзякуючы гэтай кнізе, д-ра Кіпеля можна па-сапраўднаму лічыць бацькам навуковага беларускага эміграцыязнаўства. 600-старонкавая праца дагэтуль застаецца каштоўнай крыніцай ведаў аб гісторыі беларускай справы ў ЗША.

З моманту заснавання ЕГУ ў 1992 годзе ступень Ганаровага доктара была нададзена такім выбітным дзеячам культуры, палітыкі і мастацтваў, як айцец Аляксандр Надсан, Алесь Разанаў, Кшыштаф Занусі, праф. Сяргей Аверынцаў, д-р Джонатан Фэнтан, д-р Ханс-Герт Пётэрынг, праф. Альгірдас Бразаўскас і іншыя.

**"Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт"**

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" вітае гэтае рашэнне ў дачыненні да аднаго з заснавальнікаў і ганаровага сябра нашага Згуртавання, выбітнага навукоўца і грамадскага дзеяча беларускай эміграцыі, і з гэтай нагоды выказвае Еўрапейскаму гуманітарнаму ўніверсітэту сваю шчырую ўдзячнасць!

*

**Шаноўны спадар Вітаўт Кіпель! Віншуем Вас з атрыманнем ступені Ганаровага доктара Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта!**

Радуемся гэтаму рашэнню і афіцыйнаму прызнанню гэтай установай Вашых навуковых заслуг. Для нас вялікі гонар супрацоўнічаць з Вамі цягам ужо многіх гадоў. Дзякуй за тое, што нахтняеце нас на новыя выданні і даследаванні беларускай эміграцыі. Ваша самаадданая грамадская і навуковая дзейнасць, незгасаючая цікавасць да беларускага жыцця, самаахвярнае служэнне Беларусі ёсць прыкладам для ўсіх, хто рупіцца пра захаванне і развіццё беларускай нацыі.

Яшчэ раз віншуем Вас, і ад усёй душы зычым творчага натхнення і новых скораных вяршыняў!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# КАНГРЭС ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ ПРЫЗНАЧЫЛІ НА 15 САКАВІКА

Усебеларускі кангрэс за незалежнасць плануецца правесці 15 сакавіка 2020 года, у дзень прыняцця Канстытуцыі 1994 года, паведамляецца ў прэс-рэлізе аргкамітэта.

"Арганізатары бачаць Кангрэс сапраўды ўсебеларускім форумам, які прадставіць інтарэсы дэмакратычнай апазіцыі, грамадзянскай супольнасці. Таму гэта будзе не столькі з'езд палітычных партый, колькі вялікі сход прадстаўнікоў шырокіх колаў беларускага народа. Такі фармат стане яшчэ больш верагодным, калі некаторыя палітычныя структуры паставяць свае групавыя інтарэсы вышэй за агульнанацыянальныя", – гаворыцца ў прэс-рэлізе.

28 студзеня быў прыняты адкрыты Зварот Аргкамітэту, з якога вынікае:

*"Гэта будзе другі такі Кангрэс, першы адбыўся ў снежні 2014 года, на якім быў прыняты адпаведны Маніфест. Яшчэ раней, у ліпені 2000 года, на знак пратэсту супраць падпісання "саюзнай дамовы" з РФ, прайшоў Усебеларускі з'езд, які прыняў "Акт незалежнасці Беларусі". Але зараз небяспека з боку пуцінскай Расіі для незалежнасці толькі павялічылася, патрэбныя больш рашучыя сістэмныя дзеянні.*

*Мэта цяперашняга Кангрэсу – сфарміраваць агульнанацыянальны падыход да абароны незалежнасці Беларусі ад небяспекі "саюзнай інтэграцыі" з імперскім рэжымам РФ і мабілізацыя на гэтую абарону беларускага народа як адзінага носьбіта суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь. Мы выпрацуем разам канкрэтныя меры па ўсіх аспектах абароны незалежнасці Беларусі.*

*Мы заклікаем прадстаўнікоў розных дэмакратычных партый, незалежных прафсаюзаў, праваабарончых, журналісцкіх арганізацый, канфесій, сяброў кожнай структуры грамадзянскай супольнасці, сходаў грамадзян Беларусі: збірайцеся і вылучайце сваіх дэлегатаў на Усебеларускі Кангрэс!"*

Паводле арганізатараў, на Кангрэсе не плануецца намінацыя прэтэндэнтаў на ўдзел у "прэзідэнцкай кампаніі". Аднак прапануецца выказаць на ім стаўленне да выбарчага заканадаўства і "выбараў" у Беларусі.

На пленарным пасяджэнні плануюцца выступы экс-старшыні Вярхоўнага Савету Мечыслава Грыба, былога суддзі Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова і іншых вядомых спікераў.

Пад час працы тэматычных секцый будуць абмеркаваныя розныя аспекты абароны незалежнасці. Таксама плануецца абраць новы склад рады Кангрэсу, у які ўвойдуць каля 30 вядомых грамадскіх і палітычных дзеячаў.



Аргкамітэт вызначыў нормы, квоты прадстаўніцтва і парадак выбараў дэлегатаў на Кангрэс. Паводле арганізатараў, агульная колькасць удзельнікаў будзе значна большай, чым на папярэднім кангрэсе ў 2014 годзе – тады ўзялі ўдзел 63 дэлегаты. Вырашана, што палітычныя партыі, рэспубліканскія грамадскія аб'яднанні, якія маюць больш за 1000 членаў, вылучаюць па 40 дэлегатаў, іншыя рэспубліканскія аб'яднанні, у тым ліку незарэгістраваныя – 20 дэлегатаў, сходы грамадзян, незарэгістраваныя грамадзянскія ініцыятывы змогуць вылучыць аднаго дэлегата ад кожных дзесяці грамадзян.

У сувязі з працягам рэпрэсій супраць абаронцаў незалежнасці вырашана выбраць пяць сустаршыняў аргкамітэту. Гэта – Алена Анісім, Уладзімір Колас, Ігар Рынкевіч, Павал Севярынец, Алёна Таўстая. Міжнародным сакратаром аргкамітэту кангрэсу абраная Алена Крушэўская.

Акрамя ўдзелу ў Кангрэсе прадстаўнікоў беларускай дыяспары з шэрагу краін, будуць запрошаны замежныя партнёры з Расіі, Украіны, іншых краін-суседзяў. Прысутнічаць на Кангрэсе "выказалі цікавасць амбасадары розных краін, у тым ліку з краін Еўрасаюза і краін-гарантаў беларускага суверэнітэту па Будапешцкім мемарандуме".

**Паводле Алеся Дашчынскага (svaboda.org), Ігара Рынкевіча**

гутарка

# Прафесар Юры Гардзееў: БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ З ДЭМАКРАТЫЯЙ – БУДЗЕ І ДАБРАБЫТ!

Дзе можна было пачуць пра незалежнасць у далёкія 1980-я? Як літоўцы перарывалі адсутнасць расійскага газу ў 1990-я? Ці звязаныя паміж сабою незалежнасць, свабода і фінансавы дабрабыт? На пытанні "Анкеты незалежнасці" адказвае беларускі гісторык з Кракава Юры Гардзееў.

Прафесар, доктар гістарычных навук Юры Гардзееў выкладае ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. Апошнія гадоў 20 жыве ў Польшчы, але рэгулярна наведвае Беларусь. Гардзееў – вядомы гісторык-урбаніст, які найперш займаецца вывучэннем Гродна. Томік "Магдэбурскай Гародні", які выйшаў у далёкім 2008-м, стаіць на паліцы ці не ў кожнай інтэлігентнай сям'і ў горадзе над Нёманам.

**– Чым для Вас ёсць незалежнасць Беларусі?**

– У кожнага свае каштоўнасці. Для некага гэта ўлада ці фінансавыя сродкі. Але для нас не менш важнымі за нешта матэрыяльнае ёсць каштоўнасці свабоды і незалежнасці. Незалежнасць – гэта каштоўнасць.

**– Калі Вы асабіста прыйшлі да ўсведамлення каштоўнасці незалежнасці? Як гэта адбылося?**

– Прыкладна ў 1987–1988 годзе, яшчэ студэнтам, я быў на раскопках на Новым замку ў Гродне. Акурат перабудова ішла. Жыццё вiравала! Сімвалічна, дарэчы, што на той момант у Новым замку быў абкам партыі (смяецца). Дык вось, тады я ўпершыню пачуў, як археолагі з Мінска размаўляюць пра незалежнасць! На раскопках таксама былі хлопцы са школы, з хабзаю. Усе ўважліва слухалі, здзіўляліся. Тады яшчэ ніхто паверыць не мог, што "савок" разваліцца, але размовы пра незалежнасць былі!

**– У 1991-м незалежнасць на беларусаў звалілася "як мех з бульбай", нечакана і бясплатна, ці гэта вынік шматлікіх цяжкіх намаганняў за доўгі час?**

– Хутчэй гістарычная заканамернасць. Усё ішло да гэтага. Нехта быў маральна падрыхтаваны, разумеў неабходнасць незалежнасці. Нехта не разумеў, напрыклад, камуністычныя эліты. У адрозненне ад элітаў Эстоніі ці Польшчы, нашыя яшчэ "спалі ў шапку". Моцная ментальная залежнасць ад Расіі была.

**– Дэмакратыя, фінансавы дабрабыт ці незалежнасць – што важнейшае для беларусаў? Для вас асабіста?**

– Для часткі беларусаў, якіх асабіста ведаю, дабрабыт і грошы на першым месцы. Але ёсць людзі, якія звязваюць развіццё дэмакратыі, умацаванне незалежнасці з дабрабытам. Калі дзяржава будзе незалежнай і дэмакратычнай, будзе і дабрабыт. Аднназначна.

Памятаю, як я прыязджаў працаваць у архіве ў Вільні ў пачатку 1990-х. Быў момант, калі літоўцы адмовіліся ад расійскага газу. Не было нават гарачай вады! Але народ вытрымаў. Награвалі ваду неяк, купалі дзяцей, але прайшлі сваю дарогу. Цяпер выразна бачна, як розніцца дабрабыт, заробкі і пенсіі ў Літве і ў нас. Нават улічваючы, што ў іх цэны некаторыя вышэйшыя. Яны самі на сваёй зямлі вырашаюць, што рабіць – у ЗША купляць газ ці ў Расіі. І гэта добры прыклад для тых, хто думае выключна матэрыяльнымі катэгорыямі.

**– Ці даводзілася Вам калі-небудзь тлумачыць суайчыннікам ці замежнікам каштоўнасць незалежнасці краіны?**

– Добра памятаю, як людзі нават даводзілі, маўляў, далучымся да Расіі, парадак будзе!.. Ведаем мы гэты парадак: кланава-алігархічны дзікаваты капіталізм. Некаторыя дагэтуль не разумеюць і кожны Новы год чакаюць крамлёўскіх курантаў. Такія людзі былі і ёсць.



Часам сустракаюся са знаёмымі, напрыклад, муж прабеларускі, а жонка прарасійская. Спрабую пераконваць. Думаю, 2014 год быў важным водападзелам у гэтым пытанні. У некаторых пасля прагляду расійскага ТБ нейкі кагнітыўны дысананс, бо кажуць: "Крым заўжды быў расійскі, але ж ты сам ведаеш, там заўжды жылі татары…" А яшчэ ёсць вялікае сацыяльнае балота, якім ніякай справы ні да палітыкі, ні да незалежнасці наогул няма. Абы былі чарка і скварка.

**– Беларус, які не разумее каштоўнасці незалежнасці і гатовы ад яе адмовіцца, – вораг ці… Што рабіць і як ставіцца да такіх людзей?**

– Не лічу ворагам. Гэта грамадзянін, які глыбока сядзіць у савецкіх часах і не ўяўляе жыцця без цэнтра, які будзе казаць, колькі трэба вырабіць сукна, пар шкарпэтак і г.д. Людзі шмат глядзяць ТБ, а там няма беларускага кантэнту, затое шмат расійскага. Няма свайго, і гэта добра бачна ва ўсіх сферах. Вельмі павольна рухаецца працэс рэстаўрацыі, а старадаўняя архітэктура – гэта ж брама для турыстаў. Няма нацыянальнага кіно: фільм пра Купалу – мабыць, першая ластаўка. Няма прадукту, які паказаць і свайму чалавеку, і замежніку. Жыву ў Польшчы, а людзі пытаюцца пра беларускую рок-музыку, кіно, кухню… На жаль, часта не ведаю, што адказаць.

**– Ці з'яўляюцца нацыянальная ідэнтычнасць, мова і культура неабходнымі і абавязковымі для незалежнасці?**

– Ідэнтычнасць грунтуецца на мове, культуры, гісторыі. Хоць ёсць і прыклад Ірландыі, дзе пануе ангельская, а гэльская амаль не выкарыстоўваецца. Але ірландцы ведаюць сваю культуру, больш за тое, экспартуюць яе: танцы, музыка, нават традыцыя Хэлоўіна. У Беларусі трэба папулярызаваць сваё – роднае.

З'явіўся часопіс "Наша гісторыя" – гэта вельмі добра! Бо раней пытаўся ў беларускіх шапіках "Беларускі гістарычны часопіс", які выдае АН, а яго ніколі няма! Затое ёсць "Тайны СССР" ды іншы расійскі прадукт. Масавы кантэнт фармуе свядомасць. Людзі маглі б чытаць і атаясамліваць сябе з Баторыем, Бонай, Вітаўтам, але пакуль атаясамліваюць з Пятром Першым, Іванам Грозным ды іншымі. Думаюць, што гэта і ёсць "наша"…

**– Калі кажуць, што незалежная Беларусь можа быць толькі ў ваенным, эканамічным ці палітычным саюзе з іншымі дзяржавамі, як вы да гэтага ставіцеся? Калі і быць у саюзе, то з кім і на якіх умовах?**

– Ёсць прыклады саюзаў і блокаў, а ёсць прыклады Нарвегіі ці Швейцарыі. Калі ў Нарвегіі ёсць вялізныя запасы сыравіны, то ў Швейцарыі, як кажуць, сыр, гадзіннікі ды банкі. Гэта прыклад таго, як можна жыць самастойна. Таму я не здзіўляюся, што ў нашай краіне прасоўваецца IT-сфера, бо гэта таксама фактар самастойнасці і самадастатковасці.

Іншы момант, што наша гаспадарка, каб быць апорай для незалежнасці, не можа быць сацыялістычнай. Не можа кіравацца адміністрацыйнымі метадамі. Калі будзе рынак, то будзе зусім іншая размова. З'явяцца буйныя бізнесмены, у якіх футбольныя клубы не будуць "сыпацца", у якіх гэтыя самыя клубы не будуць забіраць. Калі дабрабыт і свабода бізнесоўца будзе залежаць не ад нейкіх асобаў, а толькі ад закону, то ён і баяцца перастане, і справа пойдзе.

**– Хто можа быць гарантам незалежнасці: улада, армія, партыі і грамадскія арганізацыі, наднацыянальныя міжнародныя структуры?**

– Можа быць толькі адзін гарант: народ з развітай ідэнтычнасцю, які будзе абапірацца на глыбокія веды гісторыі, культуры, мовы. Хай нават будзе двухмоўе, але рэальнае – не тое, што цяпер. Надзець вышыванку і ведаць, што на ёй сімвалы сонца, – мала. Трэба, каб у галаве сфармавалася, што незалежнасць – гэта каштоўнасць, што мы маем сваю гісторыю і сваіх герояў, што можам імі ганарыцца.

**– Што могуць рабіць беларусы пры пагрозе незалежнасці краіны?**

– Кожны беларус павінен пачаць з сябе. Калі прымушаць нейкага размаўляць на мове ці чытаць часопісы, гэта не спрацуе. Беларус мае разумець, што ад яго нешта залежыць. А ў нас жа адчуванне, што ад людзей не залежыць нічога, бо ўсё вырашаюць нейкія людзі "зверху".

У нас пакуль "ляжыць" палітычная культура: не адрозніваюць людзі сацыял-дэмакратаў і кансерватараў, бо гэта не ўплывае ні на што. Тое самае з прававой культурай: людзі не ўмеюць банальна чытаць дакументы. Гістарычная культура – туды ж… Усе гэтыя фактары, мяркую, звязаныя паміж сабою. А сіла ўся ў народзе, у згуртаванасці, у арганізаванасці.

Гутарыў Алесь Кіркевіч,
budzma.by

навіны

# У РЫЗЕ – ПЕСЕННЫ БУКЕТ

Як песнямі, так і непаўторным калейдаскопам беларускіх народных строяў ствараўся радасны настрой на першым Конкурсе беларускай песні ў Латвіі.



Ёсць у адным з твораў беларускага паэта-песенніка Івана Цітаўца дзівосныя словы: "Жыццё маё песняй спавіта". Яны мне згадваюцца і ў дачыненні да святочнай імпрэзы – першага Конкурсу беларускай песні Латвіі, што праходзіў у Рызе 23 лістапада 2019 года ў Палацы культуры "Ziemel blazma". Ідэю конкурсу падалі супрацоўнікі Амбасады Беларусі ў Латвіі, яе падтрымаў Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур Мінкультуры Беларусі. Знайшліся й фундатары, у ліку якіх – беларускі вытворца касметыкі "Беліта – Вітэкс", Таварыства спрыяння латвійска-беларускім эканамічным сувязям, Дабрачынны фонд латвійскага банка "Rietumu", беларускі прадпрымальнік, Ганаровы консул Латвіі ў Беларусі Аляксей Саўчук. Конкурс падтрыманы й за кошт сродкаў Дзяржпраграмы "Культура Беларусі" на 2016–2020 гады (падпраграма "Беларусы ў свеце").

Рыжская восень багатая была сёлета на добрыя беларускія справы: праходзілі Дні беларускай культуры, адкрылася выстава беларускіх мастакоў, мы наведвалі магілы вядомых беларусаў на Дзяды, прайшлі Купалаўскія чытанні ў Рыжскай беларускай асноўнай школе імя Янкі Купалы… І першы Конкурс беларускай песні стаў знакавай падзеяй: бо ахапіў ён усю Латвію. У імпрэзе паўдзельнічалі 16 калектываў (з іх два дзіцячыя) з 9 гарадоў. І паплыла-паляцела на лёгкіх крылах песня беларуская ад сталіцы да ўскраін, абуджаючы ў сэрцах нашых столькі розных пачуццяў! Безумоўна, і таленавітыя спевакі кожны па-свойму, і сцэна не для ўсіх – месца звычайнае, але разам яны вялікую справу робяць: узбагачаюць беларускую культуру. І кожны з іх – як своеасаблівая кветка нацыі, а чым іх болей, тым прыгажэйшы наш песенны букет.

Заўважу: песенны конкурсны букет атрымаўся даволі разнастайным, і вельмі добра, што кожны гурт мае ў рэпертуары песню народную. Выканаўцы тонка, мякка, па-народнаму проста вялі "мелодыю свята", стварылі крыху настальгічны настрой у слухачоў, пераважна тых, хто жыве ўдалечыні ад Бацькаўшчыны. Апрача народнай песні, гучала й аўтарская – за тое наша ўдзячнасць асаблівая Станіславу Валодзьку, вершы якога добра кладуцца на музыку, цудоўна гучаць у выкананні землякоў.

Усцешна, што ствараўся ў зале святочны настрой як песняй, так і калейдаскопам беларускіх народных строяў. Колькі ў іх колераў, колькі паўтонаў! І здаецца мне часам, што менавіта песняй, некалі яшчэ бабуляй напетай, ды вышыванай рукамі маці кашуляй, бялюткім фартухом на тонкім стане дзяўчыны мы зможам "дастукацца" ў розумы, сэрцы адарваных ад роду-племені "касмапалітаў". І зразумеюць, адчуюць яны велізарную жыццядайную энергетыку нашай спадчыны!

На працягу ўсяго дня ў зале панаваў святочны настрой. І нават самі ўдзельнікі, не толькі слухачы, бачыла я, часам забываліся, што ідзе конкурс: проста радаваліся, што такое беларускае песеннае свята ў Рызе стала яваю. А між тым кожнае выступленне ацэньвала прафесійнае журы. У яго ўвайшлі кіраўніца Міжнароднага фестывалю "Riga Symphony" Алена Швілпэ, дацэнт Латвійскай акадэміі музыкі імя Язэпа Вітала, доктар мастацтваў Іева Ціхоўска, фундатар, дырэктар фірмы "Sture V" Васіль Зайцаў, консул Генеральнага консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе Яўгенія Барткевіч, дэкан факультэта музычнага мастацтва Беларускага дзяржуніверсітэта культуры і мастацтваў Ірына Грамовіч. Прафесіяналы назвалі лепшымі: ансамбль беларускай песні "Журавінка" з Вэнтспілса й два дзіцячыя калектывы – гэта "Вавёрачка" (Рыжская беларуская школа) і дзіцячая студыя "Скарбніца" з Даўгаўпілса.

Віншуем пераможцаў конкурсу! Мяркуецца, што яны прадставяць Латвію на Фестывалі мастацтваў беларусаў свету ў 2020 годзе. І ўсім іншым удзельнікам таксама жадаем творчых поспехаў ды згадваць часцей словы кампазітара Міхаіла Глінкі, род якога мае моцныя беларускі карані: "Усе спевакі ад прыроды недасканалыя й вымагаюць навучання, мэта якога – выправіць недахопы і ўдасканаліць голас".

Мы спадзяемся, што новы Конкурс беларускай песні ў Латвіі стане добрай традыцыяй. З мноства выслоўяў, што славяць песню, прывяду меркаванне ўлюбёнага ў песенную творчасць паэта Сяргея Панізніка, шэраг вершаў якога таксама набылі песенныя крылы: "Песня – пладаносны жанр, які духоўна ўзвышае, яднае й лагодзіць людзей. Песня – нібы той Дабрасвет: плыве з Велікоднай званіцы й спараджае ў супляменнікаў пачуцці любові, вернасці. Ён аклікае нас, каб умелі ў грамадзе радавацца, не баяліся агучваць намоленую нашымі продкамі прастору – і натхняліся Жыццём".

**Ганна Іване, вядучая конкурсу, намесніца дырэктаркі Рыжскай беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы**

# ВА УКРАІНЕ ПАСТАВЯЦЬ ПОМНІК БЕЛАРУСКАМУ ПІСЬМЕННІКУ ЯНУ БАРШЧЭЎСКАМУ

Дабрачынны Фонд Марыі Магдалены Радзівіл паставіць ва Украіне помнік беларускаму пісьменніку XIX стагоддзя Яну Баршчэўскаму – нядаўна ў Чуднаве на Жытоміршчыне знайшлі надмагільную пліту і дакументы аб смерці Яна Баршчэўскага.

Прэзідэнт Фонду Аляксандр Сапега расказаў Свабодзе, што макет помніка – калоны і бюст з бронзы – ужо зроблены і высланы ўладам гораду Чуднава. Паразуменне з адміністрацыяй ёсць, дадаў Сапега.

Цяпер разглядаецца пытанне аб тым, каб у помніку скарыстаць і надмагільную пліту, што захоўваецца ў Саюзе палякаў у Жытоміры. Паводле Сапегі, у гэтым пытанні супольнага адназначнага рашэння з палякамі, якія перахоўваюць пліту, няма, абяцаная рэстаўрацыя пліты яшчэ не зробленая. Гаспадаром пліты ёсць дзяржава, бо пліта лічыцца гісторыка-культурнай каштоўнасцю.



"Калі будзе прынятае рашэнне, што ў гэтай канцэпцыі мы можам ужыць надмагільную дошку, будзем разбірацца з дошкай, і тады пачнецца выраб скульптуры", – растлумачыў Сапега.

Дакладнае месца пахавання Яна Баршчэўскага невядомае, але дакументы пацвярджаюць, што пісьменнік пахаваны на могілках касцёла, які зруйнаваны савецкай уладай у 1935–1936 гадах і знаходзіўся паблізу падворку, дзе і знайшлі надмагільную пліту.

**АА, svaboda.org**

гутарка

# ЯК НАЛАДЗІЦЬ СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ З ДЫЯСПАРАЙ? ПАДКАЗВАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА

Як беларусам жывецца за мяжой? Наколькі складана адаптавацца на новым месцы? Што можа зрабіць беларуская дзяржава, каб беларусы замежжа падтрымлівалі з ёй больш цесныя стасункі? Меркаванні беларускіх эмігрантаў – у нашым матэрыяле.



Маша Савіцка з сям'ёй на Варшаўскім Служэўцы, на скачках "Велька Варшаўска".

### Маша Савіцка, 35 гадоў, Польшча

Нарадзілася ў Мінску, апошнія пяць гадоў пастаянна жыве ў Польшчы, мае сталы від на жыхарства і беларускае грамадзянства.

Я гісторык па адукацыі, прыехала ў Варшаву на стажыроўку па адной з праграм Erasmus, падчас яе і пазнаёмілася з будучым мужам.

Мне добра ў Польшчы, бо тут мая сям'я. У нас з Робертам двое дзяцей: Міра Адэля, 3 гады, і Эмілія, ёй хутка два. Таксама ў мяне ёсць старэйшы сын Кастусь ад першага шлюбу, яму адзінаццаць. Ён, дарэчы, традыцыйна праводзіць канікулы ў Беларусі з бацькам, бабулямі і дзядулем, таму лічыць, што там лепш. Я не пераконваю, але нядаўна сказала, што, калі надумае жыць у Беларусі, яму трэба будзе паўтара года адслужыць у арміі. Трохі задумаўся.

Дома мы размаўляем па-польску і па-руску. Мой муж – інжынер па адукацыі, але ён заўсёды цікавіўся культурай Усходняй Еўропы, ведае рускую мову. Вядома, ёсць думка навучыць дзяцей беларускай. Пакуль складаней за ўсё давялося Кастусю – першы год у польскай школе ён амаль нічога не разумеў. Пашэнціла, што ў яго школе шмат дзяцей эмігрантаў – в'етнамцаў, кітайцаў, украінцаў, ён асабліва не вылзяляецца.

Жывём мы ва ўласнай кватэры. У Польшчы ёсць такое паняцце, як сацыяльнае жыллё, але на яго вялікія чэргі. Большасць сем'яў бярэ кватэры ў крэдыт. Раней была праграма MdM ("Mieszkanie dla młodych"), калі дзяржава часткова фінансавала жыллё. Агулам, займець уласнае жыццё маладой сям'і тут прасцей.

Першы год адаптацыі быў вельмі цяжкі. Я ўвесь час хварэла, такі стрэс быў: доўга рабіліся дакументы, праз гэта я не магла ўладкавацца на працу, паўгода сядзела дома ў нейкім вакууме. Неяк так атрымалася, што акурат тады да мяне не мог прыехаць ніхто з беларускіх сяброў. А я ж прывычайлася да актыўнага сацыяльнага жыцця ў Мінску! Заўсёды можна было з кімсьці пабачыцца, паразмаўляць. Спачатку мы жылі ў Пясэчне, там сябравалі з суседзямі, а як пераехалі сюды, нікога знаёмага не было. Але я чытала, што ўсе людзі, якія пасля трыццаці пераязджаюць у новую краіну, маюць эміграцкую дэпрэсію, трэба проста яе перажыць.

Потым, праўда, я выйшла на працу – прадавала боты ў гандлёвым цэнтры, але ня доўга: мы хацелі дзяцей, і я хутка пайшла ў дэкрэт. У Польшчы ты маеш права на аплачаны год дэкрэтнага адпачынку, далей можаш сядзець колькі заўгодна, але за свой кошт.

Я ўжо адбыла свой год, але ўсё адно пакуль дома, з маленькай Эміліяй. А вось Міра ходзіць у садок. Тут цікавая сітуацыя з садкамі: у дзяржаўных вельмі складана трапіць, прыватных шмат, але яны вельмі дарагія і там часам вялікія групы. Нам пашэнціла – Міра ходзіць у гмінны дзіцячы садок у суседняй вёсцы.

### Воля Мракоўска, Польшча

Воля Мракоўска знаходзіцца за трыццаць кіламетраў ад Варшавы. Я не так даўно пачала кіраваць машынай, таму не вельмі мабільная. Магчыма, таму маё кола сяброў пакуль не пашыраецца. Ну і ўплывае тое, што я працавала кароткі тэрмін, а цяпер сяджу з малымі дзеткамі, таму не паспела завесці сяброў сярод палякаў. Але кантактуем з адной беларускай сям'ёй, мы знаёмыя яшчэ з часоў студэнцтва.

Вядома, мне хочацца кантактаваць з беларусамі! Цяпер, вядома, я адаптавалася, але быў перыяд, калі вельмі моцна адчувала сваю іншасць.

Калі мы яшчэ жылі ў Пясэчне, я спрабавала хадзіць у Беларускі дом, але нешта не пайшло, там вельмі абыякавае стаўленне. А я ж наіўна думала, што беларусы за мяжой будуць адно аднаго падтрымліваць! Але, магчыма, у іх прафесійнае выгаранне, такое таксама здараецца.

Па адчуваннях я беларуска. Я ніколі не стану полькай – навошта? Я нават больш скажу: на дадзены момант мяне ўсе адно больш цікавіць тое, што адбываецца ў Беларусі, чым у Польшчы. Я чытаю беларускія СМІ, перажываю за тое, што адбываецца. Хаця і разумею, што тое, чым я жыву, – не зусім Беларусь, у рэчаіснасці яна можа быць іншай.

Я езджу ў Мінск да родных нячаста – з маленькімі дзецьмі гэта няпроста. Асабліва ўскладняе паездкі Мытны саюз: з беларускім пашпартам я не маю права ў Беларусі кіраваць машынай на польскіх нумарах. Таму трэба альбо пакідаць на мяжы вялікія грошы – залог за машыну, альбо саму машыну і далей ехаць цягніком. А прамы цягнік з Варшавы дарагі, як і квіткі на самалёт. Вядома, было б прасцей, калі б у Мінск лёталі лоўкосты.

Што можа зрабіць беларуская дзяржава, каб беларусы замежжа больш з ёй супрацоўнічалі? Змяніць падыход да ўсіх сваіх грамадзян. У Беларусі кожны чалавек павінны быць на вагу золата – нас праўда вельмі мала ва ўсім свеце. Але ў нашай дзяржавы іншае стаўленне – не цэняць ні тых, хто жыве ў Беларусі, ні тых, хто з'ехаў. Ніхто не думае пра тое, як законы таго ж Мытнага саюза адаб'юцца на канкрэтных людзях. Польскія палітыкі ў сваіх праграмах часта маюць пункт па лабіраванні інтарэсаў палякаў замежжа, той жа Вялікабрытаніі. А ў нас няма такога рычага ўплыву. Таму многія, хто з'ехаў, махнулі рукой і проста радзей прыязджаюць на Радзіму. Хаця мы і не супрацоўнічаем асабліва – абураемся толькі ў тых жа сацыяльных сетках альбо ў цягніку ў Беларусь.

Калі беларусы за мяжой займаюцца актывізмам – гэта як магчымасць супакоіць сумленне: ты не з'ехаў з канцамі, робіш штосьці карыснае. Але з іншага боку, няма ніякага граху ў тым, што чалавек змяняе месца жыхарства. Ён не страчвае сувязі са сваёй краінай і, можа, яшчэ зробіць для яе штосьці карыснае. Напрыклад, вернецца з капіталамі альбо новым вопытам.

### Мікалай Н., 36 гадоў, Білефельд, Нямеччына

Нарадзіўся ў Мінску, з 2008 года жыве ў Нямеччыне, мае від на жыхарства і беларускае грамадзянства.

Я прыехаў у Білефельд працягваць адукацыю пасля беларускага ўніверсітэта, так тут і застаўся. З 2013 года працую ў моўнай школе, выкладаю нямецкую мову замежнікам.

Да таго як я паехаў сюды вучыцца, я пажыў год у Нямеччыне. Але адаптавацца было цяжка – сышло дзесяці тры гады. Мне было каля дваццаці шасці, і ў Мінску засталося ўсё маё жыццё, да якога я прывычаіўся: бацькі і сябры, кола знаёмых, культурны пласт, да якога я належаў. Самае складанае, што ў іншай краіне людзі твайго ўзросту ўжо нечага дасягнулі, "праслі", і яны цябе не чакаюць.

Гэта былі цяжкія гады, бо я жыў без сяброў, побач не было чалавека,

да якога можна было прыйсці, нармальна паразмаўляць. Мова таксама адыгрывае ролю: можна размаўляць на замежнай мове, але гэта не толькі граматыка, гэта міміка, жэсты, жарты, гульня словаў. Трэба было ва ўсё ўрубіцца.

Але і я ставіў сабе не самыя простыя мэты – хацеў адаптавацца менавіта сярод мясцовых. Ехаў не да беларусаў Нямеччыны, але ў Нямеччыну, каб камунікаваць з немцамі. Таму я не хадзіў у рускія крамы (там усё калектыўнае з Украіны, Расіі, Беларусі называецца "рускім"), не кантактаваў з людзьмі з рускамоўных суполак. Наўмысна хадзіў на нямецкія імпрэзы, нават туды, дзе быў адзіным не з Нямеччыны і часам адчуваў сябе ідыётам, бо сапраўды не да канца ўсё разумеў.

Адзінае што камунікаваў з некалькімі свядомымі беларусамі, знайшоў іх па каментарах на ют'юбе. Мы сустракаліся, размаўлялі па-беларуску. Але калі я трохі адаптаваўся, то перастаў так катэгарычна ставіцца да мовы зносінаў, цяпер карыстаюся рознымі, у тым ліку рускай.

Дома з жонкай мы размаўляем па-руску. Але я б хацеў, каб мае будучыя дзеці размаўлялі па-беларуску, каб ведалі свае карані.

Я прыязджаю да бацькоў у Мінск на "падзарадку", бо гэта мой першапачатковы дом. Адчуваю сябе беларусам і іншым ужо не буду, але я вельмі добра пачуваюся ў Нямеччыне. Хаця пра карані я пачаў больш разважаць менавіта тут, бо пабачыў розныя народы, якія добра ведаюць сваю гісторыю: немцаў, палякаў, расійцаў. У мяне быў знаёмы з Азербайджана, які мяне аднойчы запытаў: "Немцы – пратэстанты, я – мусульманін, а хто ты?" Я, нехрышчоны, моцна тады задумаўся і пасля паехаў у Беларусь, каб пахрысціцца. Пэўны час размаўляў з беларусамі толькі па-беларуску.

Як толькі я адчуў, што адаптаваўся і ў мяне тут з'явілася кола знаёмых, у адносінах з мінскімі сябрамі штосьці пачало псавацца, бо час і адлегласць робяць сваё – нашы кантакты абарваліся. Так, я падтрымліваю кантакт з двума сябрамі "са старога жыцця", але яны цяпер у Расіі, мы размаўляем праз скайп альбо тэлефон.

У Нямеччыне я маю кола сяброў. Праўда, немец сярод іх толькі адзін, ён цікавіцца еўрапейскім усходам, ведае рускую, падтрымлівае палітычны курс Украіны. Мы з ім часам размаўляем на рускай, нямецкай альбо руска-нямецка-польскай трасянцы. А так большасць маіх сяброў – палякі, з імі мне лягчэй за ўсё.

Беларусы не так кідаюцца ў вочы, як іншае расійскамоўнае насельніцтва, іх вельмі цяжка ідэнтыфікаваць. Лічу, гэта такая тыповая рыса беларуса. Палякі, расійцы, украінцы – яны ўсе маюць якіясьці нацыянальныя ідэі, аб'ядноўваюцца ў суполкі. Пра свядомыя суполкі беларусаў у Нямеччыне я не чуў.

Але я і не ведаю, па чым, што засталося ў Беларусі, апроч сваіх сяброў і сваёй сям'і, сумуюць беларусы за мяжой. Кола маіх сяброў жыве з болем праз тое, што адбываецца на Радзіме, і гэты боль заўсёды з намі.

Вельмі хацелася б, каб не было візаў. Напрыклад, каб атрымаць нямецкае грамадзянства, мне трэба адмовіцца ад беларускага пашпарта. Тады давядзецца ездзіць да бацькоў па візе. Я гэтага не хачу.

У Нямеччыне, як і ў любой краіне, бывае добра, бывае дрэнна. Цяпер там трохі неспакойна праз рэакцыю грамадскасці на вялікую колькасць эмігрантаў – палітычны клімат не такі лагодны, як быў раней. Ну і вельмі шмат бюракратыі. У Беларусі нават некаторыя сэрвісы працуюць хутчэй, напрыклад, мабільныя. Але мне тут падабаецца, у цэлым тут лепш.

**Аляксандра Дварэцкая, budzma.by**

# 25 студзеня ў Іркуцку адбыўся семінар па беларускім танцы

25 студзеня трыццаць энтузіястаў занурыліся ў атмасферу беларускага танца. Свята, задавальненне і радасць для розуму і цела – так прайшоў семінар па беларускім танцы, арганізаваны рэгіянальнай грамадскай арганізацыяй "Іркуцкае таварыства беларускай культуры ім. Я.Чэрскага" ў межах рэалізацыі сацыяльна значнага праекта "Будуем будучыню, захоўваючы традыцыі".



Восем гадзін тэорыі і практыкі выклала для ўдзельнікаў Ларыса Намаконава – вядучы харэограф міжнароднага ўзроўню, выкладчык харэаграфічных дысцыплін вышэйшай катэгорыі, балетмайстар ансамбля танца "Узорочье". Ларыса Уладзіміраўна не пачатковец у галіне беларускага танца, яна паставіла дзясяткі танцаў на аснове беларускага фальклору. На семінары ўдзельнікі не толькі атрымалі веды па методыцы народнага танца, але і парады майстра па пастановачнай працы, атрымалі магчымасць практычна засвоіць матэрыял.

Удзельнікамі сталі педагогі дадатковай адукацыі Цэнтра творчасці Іркуцкага раёна, кіраўнікі харэаграфічных калектываў з Іркуцка, п. Тайтурка Усольскага раёна, музычныя кіраўнікі, клубныя работнікі с. Андрушына Уян Куйтунскага раёна, с. Тургенеўка Баяндаеўскага раёна, с. Бабагай і в. Марынінск Заларынскага раёна. За навучанне выдаваўся сертыфікат.

Неабходнасць гэтага семінара была прадыктавана запытам ад кіраўнікоў харэаграфічных калектываў, якія жадалі пашырыць рэпертуар ансамбляў беларускімі пастаноўкамі. Былі вывучаны асноўныя руху беларускіх танцаў, фальклорныя беларускія танцы, сцэнічна апрацаваныя танцы "Верабей", "Падыспань", "Жабка", "Мітусь".

Семінар атрымаўся святочным, карысным і радасным, за што дзякуем:

- Ларысе Намаконавай – за прафесіяналізм, самаадданасць, падтрымку ў развіцці беларускай танцавальнай культуры ў Прыбайкаллі;
- Цэнтр развіцця творчасці дзяцей і юнацтва "Узорочье" ў асобе дырэктара Уладзіміра Чэрнегава і яго намесніка па АХЧ, Барыса Сяргеевіча – за выдатныя ўмовы правядзення семінара, цёплы і добразычлівы прыём;
- нашага сталага партнёра, муніцыпальную казённую ўстанову дадатковай адукацыі "Цэнтр развіцця творчасці дзяцей і юнацтва" Іркуцкага раёна ў асобе дырэктара Ангеліны Сыравацкай і метадыста Тацяны Сіпаковай за падтрымку мерапрыемства.

І самае галоўнае – семінар зрабіўся пунктам адліку падрыхтоўкі і правядзення Дзён беларускай культуры ў Іркуцкай вобласці, якія пройдуць сакавіку–красавіку 2020 года на розных пляцоўках вобласці.

**Прэс-служба ІТБК імя Я.Чэрскага**



навіны

# ЗМІТРАКА БЯДУЛЮ ПЕРАПАХАВАЮЦЬ У БЕЛАРУСІ

У 2020 годзе – магчыма, ужо вясной – класіка беларускай літаратуры, пісьменніка і паэта Змітрака Бядулю маюць перапахаваць у Беларусі. Пра гэта расказаў "Радыё Свабода" Аляксандр Сапега, прэзідэнт дабрачыннага фонду Марыі Магдалены Радзівіл і сябра Асацыяцыі беларусаў Швейцарыі, якому даверылі арганізаваць перапахаванне.



Ініцыятыва перапахавання належыць сыну Змітрака Бядулі – 86-гадоваму Яфіму Самуілавічу. Ён жыве ў Менску і ўжо не можа лятаць на бацькаву магілу ў Казахстан. Міністэрства замежных спраў Беларусі, ганаровы консул і амбасада Беларусі ў Швейцарыі дапамагаюць Аляксандру Сапегу ў арганізацыі перапахавання фінансава і арганізацыйна.

Сапега ўжо атрымаў у Казахстане дазвол на эксгумацыю і вываз цела Змітрака Бядулі. Да канца студзеня ён плануе прыляцець у Казахстан, каб прысутнічаць пры эксгумацыі як давераная асоба, і даставіць парэшткі ў Менск. Перш цела збіраліся паддаць крэмацыі для перавозкі, але выявілася, што ва ўсім Казахстане няма крэматорыяў.

Перапахаванне ў Мінску плануюць зрабіць публічным, каб развітацца маглі ўсе ахвочыя. Дакладнае месца перапахавання яшчэ не вызначылі.

Сапега кажа, што Вайсковыя могілкі – гэта "план Б", а асноўны варыянт ён пакуль хоча не называць.

Магчыма, пасля таго, як парэшткі Змітрака Бядулі трапяць у Беларусь, спатрэбіцца месяц або два, каб пахаваць іх. Сапега адзначае, што займаўся перапахаваннем княжны Магдалены Радзівіл (яе ў 2018 годзе перапахавалі ў мінскім касцёле Святога Роха, парэшткі даставілі з Швейцарыі), і гэта яго навучыла не прызначаць адразу дакладную дату перапахавання – "думаць на два крокі наперад", але ўлічваць, што розныя нарматыўныя працэдуры і разгляд зваротаў могуць зацягнуцца.

Ідэю перапахаваць Змітрака Бядулю ў Беларусі агучыў у 2017 годзе грамадскі дзяяч Глеб Лабадзенка, ідэю падтрымалі сын і ўнук пісьменніка. Літаратар памёр у 1941 годзе па дарозе ў эвакуацыю недалёка ад горада Уральска ў Казахстане.

Тым, хто ставіў помнік, складана было разабрацца ў нязвыклым вымаўленні, таму Змітрок пераўтварыўся на манер прозвішча ў "Змитров". Бядуля, адпаведна, выглядае як імя. Некаторыя літары збітыя, сама пліта патрэскалася і патрабуе радыкальнага абнаўлення. Год нараджэння пазначаны з памылкай: 1889, трэба 1886.

**АА, svaboda.org**

# "КНІГА МОГІЛАК" І "КНІГА НЕКРАЛОГАЎ"

Пад патранатам Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк) рыхтуецца да выдання ўнікальны двухтомнік, прысвечаны мемарыяльна культуры беларусаў на Захадзе.



**Станіслаў БАГОВІЧ**
Stanislaus BAHOVIĆ
(у манастве **Мікалай**, 14.09.1903, в. Вострава, цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. – † 17.08.1980, Лондан, Вялікабрытанія)

**Рэлігійны дзеяч.** У 1926 г. уступіў у закон марыянаў у Друі. Закончыў Друйскую гімназію і застаўся пры кляштары. У 1933 г. следам за а. *Я. Германовічам* выехаў у Харбін (Манчжурыя), дзе дапамагаў у гаспадарцы харбінскага Дома, пры якім дзейнічалі гімназія і інтэрнат для хлопцаў рускага паходжання. Тут прыняў усходні абрад і імя Мікалай. У 1948 г.,



Першы том будзе ўяўляць сабою альбом-даведнік "Кніга могілак: Беларускія магілы на Захадзе", у якім будуць утрымлівацца звесткі пра беларускія могільнікі і паасобныя пахаванні ў 12 краінах свету (Аўстралія, Бельгія, Вялікабрытанія, Германія, Грэцыя, Данія, ЗША, Італія, Канада, Францыя, Чэхія, Швецыя). У альбоме будуць прадстаўлены вядомыя сёння месцы пахавання беларускіх эмігрантаў ад пачатку ХХ ст., пададзены звесткі як пра цэлыя беларускія могільнікі, гэтак і пра раскіданыя па агульных могільніках беларускія магілы. Выданне будзе складацца з больш як тысячы фотаздымкаў пахаванняў і выяваў асоб, а таксама біяграфічных звестак пра пахаваных.

Другі том "Кніга некралогаў" будзе складацца з публікацый з нагоды смерці розных асоб, што з'яўляліся на старонках двух найбольш значных беларускіх газет на Захадзе: "Бацькаўшчына" (Мюнхен, 1947–1966) і "Беларус" (Нью-Ёрк, ад 1950 г.). У выданні будуць пададзеныя некралогі як суродзічаў-эмігрантаў, гэтак і вядомых культурных ці палітычных дзеячаў метраполіі, а таксама знакавых для беларусаў замежнікаў. Гэтыя тэксты адлюстроўваюць своеасаблівую сістэму каштоўнасцяў беларусаў на Захадзе, іх уяўленняў пра "сваіх" і "чужых". Асобны раздзел кнігі будзе прысвечаны таксама памятным карткам – спецыфічнаму элементу пахавальнай культуры беларускіх эмігрантаў.

Планаванае выданне з'яўляецца плёнам некалькіх дзесяцігоддзяў збіральніцкай працы розных асоб. Укладальнікамі двухтомніка выступаюць даследчыкі эміграцыі Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч. Плануецца, што абодва тамы пабачаць свет у 2021 годзе. Больш падрабязную інфармацыю пра выданні можна атрымаць праз электронную пошту: nhardzijenka@gmail.com.

**"Наша слова"**

## Беларускі каляндар памятных дат на люты 2020 года

**2 лютага**
- 75 гадоў таму, у 1945-м, загінуў Валянцін Рамановіч, мастак.

**3 лютага**
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Уладзімір Шнэк, вайсковы дзеяч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**4 лютага**
- 70 гадоў таму, у 1950-м, памёр Ян Булгак, фотамастак, этнограф.

**8 лютага**
- 210 гадоў таму, у 1810-м, нарадзіўся Іван Хруцкі, жывапісец. Памёр у 1885-м.

**9 лютага**
- 90 гадоў таму, у 1930-м, нарадзіўся Валянцін Тарас, пісьменнік. Памёр у 2009-м.

**12 лютага**
- 90 гадоў таму, у 1930-м, нарадзіўся Вальмен Аладаў, архітэктар.

**13 лютага**
- 315 гадоў таму, у 1705-м, нарадзілася Францішка Уршуля Радзівіл, пісьменніца. Памерла ў 1753-м.

**16 лютага**
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Франц Кушаль, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1969-м.
- 115 гадоў таму, у 1905-м, памёр Павел Баброўскі, гісторык.
- 95 гадоў таму, у 1925-м, нарадзіўся Іван Навуменка, пісьменнік. Памёр у 2006-м.

**17 лютага**
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Фёдар Вінакураў, вучоны ў галіне гідратэхнікі. Памёр у 1990-м.

**18 лютага**
- 175 гадоў таму, у 1845-м, памёр Ігнат Анацэвіч, гісторык.
- 85 гадоў таму, у 1935-м, нарадзіўся Сяргей Картэс, кампазітар. Памёр у 2016-м.

**19 лютага**
- 155 гадоў таму, у 1865-м, нарадзіўся Георгій Высоцкі, заснавальнікляснoй доследнай справы ў Беларусі. Памёр у 1940-м.
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Казімір Сваяк (сапр. Канстанцін Стаповіч), паэт, драматург. Памёр у 1926-м.
- 115 гадоў таму, у 1905-м, памёр Якуб Наркевіч-Ёдка, прыродазнавец, медык.
- 110 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Палікарп Манькоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1998 г.
- 105 гадоў таму, у 1915-м, нарадзіўся Анатоль Бярозка (сапр. Мітрафан Рэпкаў-Смаршчок), лекар, паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**20 лютага**
- 210 гадоў таму, у 1810-м, памёр Марцін Пачобут Адляніцкі, астраном.

**24 лютага**
- 260 гадоў таму, у 1760-м, памёр Мацей Догель, гісторык-археограф.
- 85 гадоў таму, у 1935-м, нарадзіўся Рыгор Барадулін, паэт. Памёр у 2014-м.

**25 лютага**
- 100 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Пётр Прыходзька, паэт. Памёр у 2006-м.

**26 лютага**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, нарадзіўся Уладзімір Пузыня, музыка, майстра-рэстаўратар нацыянальных музычных інструментаў. Памёр у 2012-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 1 (212), студзень 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12